

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***

# НАША СЛОВА.pdf



**Трэці год выдання** **№ 8 (112) 21 лютага 2024 г.**

# Міжнародны дзень роднай мовы

Міжнародны дзень роднай мовы, міжнародны дзень матчынай мовы - адмысловы дзень, абвешчаны 25 гадоў таму назад на 30-й сесіі ЮНЕСКА па прапанове Бангладэш (1999). Мае на мэце заахвочванне моўнай разнастайнасці і шматмоўнай адукацыі, а таксама спрыянне ўсведамленню моўных і культурных традыцый, якія грунтуюцца на ўзаемаразуменні, цярпімасці і дыялогу. Дзень святкавання - 21 лютага быў абраны таму, што ў гэты дзень у 1952 годзе загінулі пяць студэнтаў, якія змагаліся за наданне бенгальскай мове статусу дзяржаўнай у тагачасным Пакістане, усходняя частка якога пазней стала незалежнай дзяржавай Бангладэш.

Свята было заснавана рашэннем 30 й сесіі Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА ў лістападзе 1999 года і адзначаецца з 2000 года. ЮНЕСКА мае намер стварыць сістэму адсочвання стану моў, якія знаходзяцца пад пагрозай знікнення, і садзейнічаць выпраўленню становішча. Паводле ацэнак ЮНЕСКА палова з 6 тысяч моў свету знаходзіцца пад пагрозай знікнення. Генеральная Асамблея ААН падтрымала рашэнне пра абвяшчэнне Міжнароднага дня роднай мовы і заклікала дзяржаўчленаў ААН і Сакратарыят ААН садзейнічаць абароне і захаванню ўсіх моў народаў свету.



***Шахід-Мінар, ці Манумент пакутнікам у Бангладэш, усталяваны як помнік ахвярам 21 лютага 1952 года падчас маніфестацыі руху за статус бенгальскай мовы***




Да Міжнароднага дня роднай мовы ў Беларусі праводзіцца шмат розны імпрэзаў і мерапрыемстваў пад рознымі назвамі. У Менску ў дзяржаўных установах пішуць Рэспубліканскую дыктоўку. Сёлета Рэспубліканскую дыктоўку будуць дыктаваць на канале “Культура” Беларускага радыё 21 лютага ў 13.00. Пачынаюць з’яўляцца абвесткі пра шэраг іншых мерапрыемстваў у розных установах.

Сёлета на Гарадзеншчыне мерапрыемствы да Міжнароднага дня роднай мовы, як звычайна, падтрыманы Гарадзенскім аблвыканкамам. Яны пачалі разгортвацца яшчэ з 16 лютага і будуць працягвацца да 2 сакавіка.

У першых шэрагах Лідскі раён. Ужо прайшла імпрэза ў бібліятэчным філіяле № 2. Напісана 17-я Агульнанацыянальная дыктоўка ў Мінойтаўскай бібліятэцы, на 3-м бібліятэчным філіяле і ў Доміку Таўлая.

З 19-га лютага пачалі пісаць дыктоўкі ў Лідскім каледжы. 21 лютага тут будзе свята мовы. Свята роднай мовы пройдзе 21 лютага і ў Лідскім політэхнічным каледжы. Дыктоўка ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы спланавана на 21 лютага ў 11.00. Літаб’яднанне “Суквецце” пры “Лідскай газеце” піша дыктоўку 21 лютага ў 17.30.

21 лютага пачынаецца Дэкада роднай мовы ва Упраўленні адукацыі Лідскага райвыканкама. Не застануцца ў баку і іншыя ўстановы культуры і адукацыі раёна.

***Наш кар.***

# Дыктоўка ў Мінойтах

17 лютага на Лідчыне стартавала 17-я Агульнанацыянальная дыктоўка.

Першымі пісалі дыктоўку чытачы Мінойтаўскай бібліятэкі. Пісалі ўрывак з "Глыбокай плыні" Івана Шамякіна 10 чалавек. Чытала дыктоўку Марыя Арцёмаўна Бойка.







Па выніках дыктоўкі ўдзельнікі атрымалі падарункі ад ПП "Пружмень".

Аздобілі дыктоўку акцёры Народнага тэатра "Бераг" Мінойтаўскага КДЦ. Сутнасць прадстаўлення: як вясковая маці навяртае да беларускай мовы гарадскую дачку.





Напрыканцы адбылася лінгвістычная віктарына пра тонкаці беларускай мовы, якую прафесійна правяла загадчык бібліятэкі Марыя Міхайлаўна Халявінская.

***Наш кар.***





# Дыктоўка ў Доме Валянціна Таўлая...

У Доме Валянціна Таўлая Лідскага гісторыка-мастацкага музея ўжо не першы год збіраюцца прыхільнікі і майстры паэтычнага слова, а таксама тыя, хто падтрымлівае і шануе роднае слова. Тут, у доме паэта закладзена традыцыя прымаць удзел у напісанні беларускай дыктоўкі ў рамках Міжнароднага дня роднай мовы. Менавіта, той мовы, якую адстойваў Валянцін Таўлай яшчэ ў юнацкія гады, якой прысвяціў усё сваё кароткае жыццё і пранёс у сабе запавет - быць беларусам на сваёй роднай зямлі.

На гэты раз напярэдадні Міжнароднага дня роднай мовы, 18 лютага ў доме паэта сабраліся супрацоўнікі з Лідскага замка і ўдзельнікі музейна-асветніцкага праекта Лідскага гісторыка-мастацкага музея "Гістарычная гасцёўня "Памяць за сабою пакліч"".

Для іх быў зачытаны тэкст "Выратавалі… мост" аўтара З. Стасюлевіча. Гэты твор пра замініраванне гітлераўцамі горада Ліда, але ж гэтым задумам не надалося ажыццявіцца. Дзякуючы паспяховым дзеянняў савецкіх салдатаў былі размініраваны вуліцы і ўратаваны чыгуначны мост цераз раку Нёман.





Тэкст чытаў навуковы супрацоўнік Лідскага гісторыка-мастацкага музея Алесь Хітрун. Трэба зазначыць, што ўдзельнікі ў напісанні дыктоўкі сябе праявілі актыўна, справіліся выдатна. І ў гэтым не павінна быць сумневу. Супрацоўнікі Лідскага гісторыка-мастацкага музея і прадстаўнікі з праекта пастаянна сябе праяўляюць з найлепшага, станоўчага боку.

У выніку першае месца было падзелена паміж Букоўскай Таццянай, Каладзяжнай Анастасіяй, Няфёдавай Надзеяй, Драздовай Святланай. Другое занялі Ліпніцкая Таццяна, Малахава Зінаіда, Казыра Тарэса. Трэцяе месца было падзелена паміж Гакоўскай Жаннай і Грачушным Яўгенам.

***Наш кар.***

# ... а ў Палацы культуры г. Ліды

Палац культуры города Ліда
ЗАПРАШАЕ
21.02.2024

**Свята беларускай мовы**
*да міжнароднага дня роднай мовы*

9:00 – АКЦЫЯ "ВІТАЕМ ПА-БЕЛАРУСКУ"
(хол 1-ага паверха)

11:00- ГУЛЬНЯВАЯ ПРАГРАМА "ХВІЛІНКА РОДНАЙ МОВЫ"
(вялікая зала)

11:20- СПЕКТАКЛЬ "ЯК КАЗКІ ПЕРАБЛЫТАЛІСЯ" ЎЗОРНЫ ТЭАТР "КАКОС"
(вялікая зала)

15:00- ЛІТАРАТУРНА-МУЗЫЧНАЯ ПРАГРАМА " РОДНАЯ МОВА, У МАРАХ, У ПЕСНЯХ, У СНАХ"
(маладзежны інфармацыйна-пазнавальны праект "Студэнцкая серада")
(фае вялікай залы)

16:30- ТАНЦАВАЛЬНА-ПАЗНАВАЛЬНАЯ ЗАБАВА"ТАНЦУЕМ ПА-ДАЎНЕЙШАМУ"
(фае вялікай залы)

6+

Уваход вольны

ДАВЕДКІ ПА ТЭЛ.: 80154548691

# Пісалі “Векапомныя дні”





18 лютага прайшла 17-я Агульнанацыянальная дыктоўка ў 3-м бібліятэчным філіяле г. Ліды. Па вельмі аб'ектыўных прычынах дыктоўку тут пісалі ўсяго тры чалавекі. Урывак з "Векапомных дзён" МІхася Лынькова чытала загадчык філіяла Алена Янаўна Папковіч.

***Наш кар.***

# ДА ДНЯ РОДНАЙ МОВЫ. ПРАЕКТ НАШАЙ МОЛАДЗІ. БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ




Савет стараст факультэта журналістыкі БДУ запрашае на квіз, які прымеркаваны да **Дня роднай мовы.**
На мерапрыемстве вы глыбей пранікнецеся беларускай мовай і культурай.
Збірайце сваю каманду з 3-5 чалавек і рэгіструйце яе па спасылцы.
https://docs.google.com/.../
1FAIpQLSdl2ispW7q.../viewform

21 лютага, 17:00
Факультэт журналістыкі БДУ,
414 аўдыторыя.

***Наташа Бардзілоўская.***

# Да роднай мовы крок зрабі

Наша родная мова - гэта часцінка народа, якая акружае нас, гэта часцінка сям'і, дзе нараджаецца і жыве чалавек, гэта часцінка, перш за ўсе, кожнага з нас.

16 лютага з мэтай знаёмства з роднай мовай на аснове твораў беларускіх класікаў і сучасных пісьменнікаў напярэдадні Міжнароднага дня роднай мовы для ўдзельнікаў клуба "Буслік" філіяла "Лідская гарадская бібліятэка № 2" прайшоў літаратурны конкурс вершаў "Да роднай мовы крок зрабі".










Навучэнцы адказна падрыхтаваліся да мерапрыемства, паказалі сваё майстэрства, арыгінальнасць і эмацыянальнасць у час дэкламавання твораў на роднай мове. А лепшыя з іх былі ўзнагароджаны дыпломамі.

*ТК "Культура Лідчыны".*



# У Менску прайшла сустрэча духавенства, у якой узяў удзел нунцый Ёзіч

15 лютага, у чацвер пасля Папельца, у архікатэдральным касцёле Найсвяцейшага Імя Марыі ў Менску прайшла сустрэча духавенства Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі.




Сустрэча традыцыйна распачалася супольнай малітвай Літургіі гадзінаў, якую правёў пробашч архікатэдральнай парафіі ксёндз канонік Дзмітрый Пухальскі, пасля чаго адказны за пастаянную фармацыю маладых святароў архідыяцэзіі ксёндз канонік Аляксей Раманчук з Барысава прамовіў духоўную канферэнцыю. У ёй святар глыбей растлумачыў сабратам палажэнні дактрынальнай дэкларацыі Дыкастэрыі Веравучэння Fiducia supplicans.

*Прамоўца падкрэсліў, што дэкларацыя не змяняе каталіцкага веравучэння адносна сутнасці сакрамэнтаў, у прыватнасці сужэнства, якое з'яўляецца адзіным і непарыўным саюзам выключна паміж мужчынам і жанчынай, а толькі трактуе душпастырскія аспекты благаслаўлення, як знаку Божай падтрымкі і суцяшэння кожнаму, хто жадае яго атрымаць, але ні ў якім выпадку не згоды і адабрэння амаральных паводзінаў.*

Ксёндз Аляксей дадаў, што лепшаму разуменню палажэнняў дакумента і іх практычнаму прымяненню ў мясцовых умовах можа служыць прынятае на нядаўнім пасяджэнні Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі спецыяльнае **Паведамленне** нашага епіскапату адносна






Дактрынальнай дэкларацыі Дыкастэрыі Веравучэння Fiducia supplicans.

Пасля адарацыі Найсвяцейшага Сакрамэнту і магчымасці прыступіць да сакрамэнту паяднання, якой многія скарысталіся, распачалася святая Імша, цэлебрацыю якой узначаліў Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Антэ Ёзіч.




Перад пачаткам Эўхарыстыі Мітрапаліт Менска-Магілёўскі арцыбіскуп Юзаф Станеўскі перадусім прывітаў прадстаўніка Папы, а таксама павіншаваў з днём нараджэння аднаго са сваіх найбліжэйшых супрацоўнікаў - Генеральнага вікарыя архідыяцэзіі біскупа Юрыя Касабуцкага.

Арцыпастыр таксама заахвоціў усіх святароў, што канцэлебравалі гэтую Імшу, ахінуць малітваю сабратоў, якія ў бліжэйшыя дні таксама адзначалі або будуць адзначаць дні нараджэння або імяніны, перадусім прысутнага ў прэзбітэрыі Апостальскага адміністратара для католікаў візантыйскага абраду ў Беларусі архімандрыта Сяргея Гаека, які на мінулым тыдні адзначыў 75-гадовы юбілей, а таксама дэкана Менскага катэдральнага капітула ксяндза каноніка Антонія Клімантовіча, які напярэдадні адзначыў сваё 55-годдзе.





Гамілію прамовіў Генеральны вікарый Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB з Магілёва, які прысвяціў яе тэме паклікання да няспыннага дыялогу з Богам усіх духоўных і кансэкраваных асобаў. Іерарх звярнуў асаблівую ўвагу на тое, што святары і манахі павінны быць настаўнікамі малітвы для ўсіх вернікаў, а таму ім самім неабходна быць людзьмі малітвы, не шкадуючы на яе сіл і часу, а таксама пазбягаючы паспешлівасці, якая вядзе да павярхоўнасці і фармалізму.

*"Усе мы былі пакліканыя Хрыстом і ўцягнутыя ў вельмі небяспечны план, які ведае толькі Бог. Мы ведаем, што гэта план збаўлення чалавека з нашай святарскай, манаскай дапамогай. Таму, каб выканаць яго, трэба размаўляць з Богам. Бо Бог ведае, што мы павінны рабіць, каб не сапсаваць Яго задумы, але каб зрабіць магчымым для Яго рэалізаваць яе ў нас, а таксама і праз нас"*,- сказаў біскуп Аляксандр Яшэўскі, завяршыўшы гамілію віншаваннем з днём нараджэння, скіраваным сабрату ў біскупстве і некаторым святарам архідыяцэзіі.

Напрыканцы святой Імшы са словамі віншавання да біскупа Касабуцкага звярнуўся таксама нунцый Ёзіч.

Прадстаўнік Папы Францішка ў нашай краіне прачытаў і перадаў іерарху свой віншавальны адрас, у якім выказаў яму падзяку *"за вернае і руплівае служэнне"*, якое той здзяйсняе на карысць Касцёла ў Беларусі, а таксама за *"адданасць Хрысту і Яго Евангеллю"*.

У якасці падарунка Апостальскі нунцый уручыў біскупу Юрыю Касабуцкаму медаль чарговай гадавіны пантыфікату Папы Францішка.

Апошнім пунктам велікапоснай сустрэчы духавенства ў Менску стала арганізацыйная частка, якую правёў са сваімі святарамі арцыбіскуп Станеўскі.

Перадусім ён звярнуў увагу душпастыраў на яшчэ адзін нядаўна апублікаваны дакумент Дыкастэрыі Веравучэння пад назвай Gestis verbisque, прысвечаны форме і матэрыі сакрамэнтаў, асцярогшы душпастыраў ад самадзейнасці ў такой важнай матэрыі, якой з'яўляюцца сакрамэнты Касцёла.

Акрамя таго арцыпастыр падрабязна пазнаёміў прысутных з планам мерапрыемстваў у архідыяцэзіі да канца бягучага года, звярнуў увагу на дзейнасць розных спецыяльных душпастырстваў, заахвоціў да новых душпастырскіх ініцыятываў, асабліва ў працы з дзецьмі і моладдзю, а таксама закрануў шэраг іншых пытанняў, якія датычацца жыцця і дзейнасці Менска-Магілёўскага Касцёла.

На сустрэчы было агучана пэўнае новаўвядзенне: з гэтага часу сустрэчы духавенства і кансэкраваных асобаў будуць адбывацца асобна, за выключэннем аплаткавай сустрэчы, а таксама ў Вялікі чацвер.

***Тэкст: Мікола Гракаў.***
***Фота: Кс. Аляксандр Улас.***
***Catholic.by.***

# ПАВЕДАМЛЕННЕ

## Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі адносна Дактрынальнай дэкларацыі Дыкастэрыі Веравучэння Fiducia supplicans

18 снежня 2023 года была апублікавана Дактрынальная дэкларацыя Дыкастэрыі Веравучэння Fiducia supplicans, якая разважае і тлумачыць пра пастырскае значэнне благаслаўленняў. Гэты дакумент разглядае магчымасць больш шырокага іх выкарыстання перадусім у пазалітургічным вымярэнні. У дакуменце падкрэсліваецца, што літургічнае благаслаўленне можа быць удзелена толькі ў выпадку, калі *"тое, што благаслаўляецца, адпавядае Божай задуме, заключанай у стварэнні і цалкам аб'яўленай Хрыстом Панам"* (FS 11).

Нягледзячы на тое, што Дэкларацыя яшчэ раз пацвярджае адсутнасць змен у традыцыйным каталіцкім веравучэнні аб сужэнстве, як саюзе мужчыны і жанчыны, і няма ніякага "дазволу" або "благаслаўлення" на аднаполыя саюзы або любое іншае жыццё ў граху, яна дае магчымасць пазалітургічнага благаслаўлення нерэгулярных ці аднаполых пар.

Таму мы як Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі звяртаемся да святароў і ўсіх вернікаў Касцёла ў Беларусі з наступным паведамленнем.

1. Згаданая Дэкларацыя Дыкастэрыі Веравучэння не змяняе вечнага вучэння Каталіцкага Касцёла аб сужэнстве і сексуальнай маральнасці. Адзіным сужэнскім саюзам, які прызнае Каталіцкі Касцёл, з'яўляецца саюз паміж мужчынам і жанчынай як супольнасць усяго жыцця, скіраваная па сваёй прыродзе да дабра сужонкаў, а таксама для нараджэння і выхавання патомства (ККП 1983, кан. 1055).

2. Каталіцкі Касцёл у Беларусі не мае намеру ўводзіць у практыку прапанаваную Дэкларацыяй магчымасць благаслаўлення пар, якія жывуць у нерэгулярным саюзе і аднаполых пар.

3. Канферэнцыя Біскупаў нагадвае святарам і дыяканам, што нелітургічнае благаслаўленне можа ўдзяляцца ўсім асобам, якія аб ім просяць. Аднак заўсёды неабходна пазбягаць удзялення благаслаўлення менавіта парам, якія жывуць у так званым "грамадзянскім шлюбе", а таксама тым, хто жыве ў кананічна нядзейсным сужэнстве або аднаполым парам. Такое благаслаўленне можа быць успрынята іншымі вернікамі як згода на грэх.

4. У той жа час мы з блізкасцю і павагай суправаджаем нашых братоў і сясцёр, якія жывуць у асаблівых сітуацыях, і гатовыя дапамагаць ім набыць глыбейшае разуменне Божай волі на іх жыццёвым шляху да Хрыста і да святасці.

З малітвай,
Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі
Мінск, 1 лютага 2024 г.





# Кніга - лепшы падарунак

Міжнародны дзень дарэння кніг - свята, заклікане прывіваць любоў да чытання і кніг. Гэтае свята аб'ядноўвае ўсіх, хто неабыякавы да літаратуры, хто шануе чароўны свет кніг, хто ўмее дарыць і дзяліцца сваім цяплом і натхненнем. Сёння ў гэты дзень прынята дарыць кнігі, у першую чаргу, дзецям, а таксама тым, чые магчымасці да доступу да чытання кніг па тых ці іншых прычынах абмежаваны. Аднак не толькі дзеці любяць чытаць. На шчасце, яшчэ вельмі шмат дарослых людзей разумеюць і шануюць кнігу як прадмет не толькі матэрыяльнай, а ў першую чаргу, духоўнай каштоўнасці, шануюць тыя пачуцці і эмоцыі, якія дорыць чытачу аўтар. Дзеці, у сваю чаргу, вучацца дабру, сяброўству, узаемадапамозе, любові да бліжняга, пачуцця суперажывання і многаму таму, што дапамагае дзіцяці стаць чалавекам.

На сённяшні дзень ідэйныя натхняльнікі прасоўвання і папулярызацыі кнігі і свята дабіліся сваёй мэты: кніга па-ранейшаму любімая, а свята носіць міжнародны характар.

Да Міжнароднага дня дарэння кніг бібліятэкары Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы арганізавалі акцыю "Кніга - лепшы падарунак".

У госці прыехалі вучні 7 "Б" класа ДУА "Сярэдняя школа №1 г. Ліды". Яны перадалі кнігі ў бібліятэку, а бібліятэкары расказалі, адкуль узялося свята і чаму яно стала міжнародным.





Затым прысутныя азнаёміліся са з'яўленнем кнігі, у якіх краінах устаноўлены помнікі кнізе, чаму кніга з'яўляецца найлепшым падарункам. А на заканчэнне мерапрыемства бібліятэкар падарыла школе кнігу "Ад лідскіх муроў".

Гэты дзень паказаў, што папяровая кніга застаецца актуальным падарункам і не страчвае сваёй каштоўнасці нават у стагоддзе тэхналогій. Таму ў нашых бібліятэках у гэты дзень праходзяць акцыі па дарэнні кніг, а таксама ўшаноўваюць чытачоў, якія дзеляцца сваімі любімымі творамі, перадаючы іх у фонды бібліятэк.







Не застаўся гэты святочны дзень без увагі і іншых бібліятэк Лідчыны. Філіял "Лідская гарадская дзіцячая бібліятэка" для чытачоў і гасцей бібліятэкі запусціў акцыю "Бібліятэцы - з любоўю", філіял "Лідская гарадская бібліятэка № 2" - акцыю "Дарыце кнігі з любоўю", а філіял "Лідская гарадская бібліятэка № 3" - акцыю "Дзень кнігадарэння". Кожны ахвотны ад шчырага сэрца можа падарыць кнігі бібліятэкам горада і раёна не толькі ў Міжнародны дзень кнігадарэння, але і ў любы іншы. Бо галоўнае - жаданне даць кнізе другое жыццё, зрабіць яе запатрабаванай, значнай, чытанай. І кнігі абавязкова знойдуць свайго чытача!

*Бібліятэкар аддзела бібліятэчнага маркетынгу*
*ДУК "Лідская раённая бібліятэка імя Я. Купалы"*
*К.С. Сандакова.*





# Суд над камуністам Прытыцкім у акруговым судзе

***Уступ ад перакладчыка:*** *"Небывалы ў гісторыі польскага суда выпадак здарыўся 27 студзеня 1936 года падчас працэсу над Р. Кабленцам і іншымі з ліку 17 асоб, абвінавачаных у прыналежнасці да Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Падчас паказанняў сведкі Якуба Стрэльчука з нутра публікі, якая была на зале, выбег малады чалавек, схапіў сведку левай рукой за каўнер і з рэвальвера, які меў у правай руцэ, чатыры разы выстраліў у яго са словамі: "Вось табе, прадажнік!" Пасля гэтага кінуўся ўцякаць да выхадных дзвярэй, выстраліўшы два разы ў кірунку следчай паліцыі, якая знаходзілася ў зале і пачала яго даганяць. Падстрэлены паліцыянтам, ён упаў на сходы. Гэта быў Сяргей Прытыцкі. Абодвух - Стрэльчука і Прытыцкага - карэтка скорай дапамогі адвезла ў шпіталь. Паводля акту абвінавачання Стрэльчук родам з вёскі Крывая Бельск-Падляшскага павета. У 1931 годзе пасля вайсковай службы, атрымаў прапазыцыю запісацца ў камуністычную партыю. Аб гэтай прапазыцыі паведаміў начальніку бяспекі … староства і ўвайшоў у кампартыю, дзе здабыў сабе давер у кіраўніцтва і быў прызначаны інструктарам".*

*Наша Воля, № 3 (4), 4 лютага 1936.*

**Вільня.** Пры разглядзе справы пра знакаміты выпадак 27 студзеня, калі Прытыцкі страляў у судовай зале, былі прыняты сур'ёзныя меры засцярогі, якім папярэднічалі пагрозы з боку розных камуністычных асяродкаў. Перад будынкам суда стаялі паліцыянты і кантралявалі тых, хто ўваходзіў. У залу заходзілі толькі па адмысловых пропусках, выдадзеных асабіста віца-старшынём суда Бразоўскім. А 9-й гадзіне абвінавачанага Прытыцкага пад аховай паліцыі ўвялі ў судовую залу і паліцэйскія сталі з бакоў лавы падсудных. Прытыцкі ішоў павольна, трошкі кульгаючы на левую нагу. Нягледзячы на безнадзейны стан, у якім ён знаходзіўся, яго ўдалося выратаваць, і толькі крыху схуднелы твар сведчыў пра мінулае.

### Бацька абвінавачанага

Увайшоўшы, Прытыцкі акінуў позіркам пакой. Магчыма, ён шукаў знаёмыя твары. Раптам знайшоў - убачыў бацьку. Белая кашуля, рыжая барада і блакітныя вочы якія глядзяць з пад ілба, тыповы "пільшчык" - старавер (Прытыцкія - беларусы, верагодна, Мацкевіч меў на ўвазе, што бацька быў апрануты як старавер - *Л. Л.*). Сын іншы, толькі вочы такія ж як у бацькі, яны таксама неспакойна бегаюць. Але ў сына бачна нейкая вытанчанасць, ці тыя 4 класы агульнаадукацыйнай школы, альбо вывучка ў ячэйцы КПЗБ. Нават размаўляе па-польску і толькі час ад часу ўстаўляе словы на "простай мове".

### Званок ... Суд ідзе

Неўзабаве ў пакой увайшлі суддзі. Старшыня суда Арліцкі і суддзі Занеўскі і Драц. Абвінаваўца - віца-пракурор Вольскі, бароніць адвакат Дураш. Зачытваецца акт абвінавачвання.

Падсудны Сяргей Прытыцкі, мае 23 гады, жыхар вёскі Гаркавічы Сакольскага павета, па-за канфесіяй. Затрымліваўся за камуністычную дзейнасць, добра вядомы паліцыі з-за ўхіленне ад войска. Мае за сабой "падрыхтоўчы курс", скончаны ў Саветах.

### Якуб Стрэльчук - сакратар КПЗБ

Пасля чытання абвінаваўчага акту, у якім Прытыцкаму высоўваецца членства ў КПЗБ і яе моладзевай арганізацыі - камсамоле Заходняй Беларусі, а таксама замах на забойства 27 студзеня гэтага года сведкі Якуба Стрэльчука і паліцэйскага Станіслава Дайноўскага. Пасля гэтага пачынаецца доўгае і надзвычай цікавае судовае разбіральніцтва.

Яшчэ ў лютым мінулага года ЦК КПЗБ распачаў расследаванне прычын масавых затрыманняў камуністычных актывістаў. Падазрэнне на сувязь з паліцыяй пала на Я. Стрэльчука, сакратара Берасцейскага акруговага камітэта КПЗБ.

### Загад забіць

Па гэтай прычыне яго пераводзяць у Вільню, дзе ён даведваецца аб сваім вяртанні ў СССР. Адзначым, што ў свой час Стрэльчук таксама закончыў курсы ў Менску.

Адпраўка асоб, якіх падазраюць у сувязі са следчым аддзелам паліцыі, азначала немінучы расстрэл у СССР. Стрэльчук ведаў гэта і не падпарадкаваўся загаду.

### Тлумачыць абвінавачаны

*"Прызнаюся, я хацеў забіць Страэльчука, але не па загадзе КПЗБ. Калі я вандраваў па рознай працы на тэрыторыі, якую лічу Заходняй Беларуссю, я чуў, як усе казалі, што Стрэльчук хадзіў па людзях і намаўляў іх супраць улады, а потым здаваў у паліцыю. Я вырашыў спыніць яго ганебную дзейнасць, бо не бачыў іншага выйсця".*

Прытыцкі гаворыць усё гэта манатонным голасам, нібы раней засвоены ўрок і пры гэтым чырвонымі рукамі чапляецца за край лавы. Далей ён кажа, што не жадаў нікога забіваць і таму адмыслова страляў у Стрэльчука з правага боку, каб кулі патрапілі ў сцяну. На ўсе пытанні пракурора адказвае, што ён не памятае - не памятае ў якіх

мясцовасцях і ў каго працаваў.

*"Людзі ў гэтым сусвеце, з іроніяй кажа пракурор, маюць імёны і прозвішчы, неяк так дзіўна ўладкавана гэтая буржуйская сістэма"*. Абвінавачаны маўчыць. Ён таксама не памятае, дзе купіў вопратку, у якім гатэлі спыніўся ў Вільні, у каго набыў абодва рэвальверы за казачны кошт у 5 злотых, дзе фатаграфаваўся.

**Партыйныя аблавы**

У сакавіку мінулага года Стрэльчук быў арыштаваны паліцыяй і даў паказанні, абвінаваціўшы пры гэтым многіх вядомых дзеячаў падполля. Кіраўніцтва КПЗБ вырашыла бязлітасна забіць яго. На адным з працэсаў у Берасці замах на яго не ўдаўся. Таксама не ўдаўся замах на яго і ў Ашмянах.

Варта адзначыць, што ад падобных "прысудаў", пра якія потым раскажа пракурор, загінула шмат людзей. ЦК КПЗБ збірае грошы на арганізацыю забойстваў, піша пра гэта ва ўсе свае ячэйкі і акругі і нярвуецца пры згадванні Стрэльчука. Таму і адбыўся замах на яго. Напярэдадні копіі паказанняў Стрэльчука трапілі ў рукі кіраўніцтва партыі. Напэўна, нехта ўзяў іх з пратаколаў суда.

**Стрэлы ў зале суда**

Заказ на забойства ў Вільні атрымаў актывіст са стажам Прытыцкі. Ён вывучыў "раён працы", і каб не памыліцца, добра прыгледзеўся да Стрэльчука.

Падчас дачы паказанняў, ён падманам стрэліў у спіну з двух рэвальвераў, пасля чаго кінуўся ўцякаць. На лесвіцы яшчэ адстрэльваўся ад паліцыянтаў, якія беглі за ім, а на падлозе судовай залы застаўся ляжаць акрываўлены Стрэльчук.

**Пратэсты кампартыі**

Прытыцкага, таксама параненага, везлі ў шпіталь і ён усё крычаў па дарозе: "Няхай жыве пралетарская рэвалюцыя ў Польшчы". Пасыпаліся пратэсты грамадскасці, якія арганізавала кіраўніцтва КПЗБ, яны праслаўлялі злачынны ўчынак Прытыцкага і патрабавалі для яго свабоды. Вывешваліся транспаранты з бессэнсоўнымі надпісамі, расклейваліся ўлёткі з тыпова камуністычнымі лозунгамі, у якіх славіўся злачынца.

На Пагулянцы быў арыштаваны яўрэй, які пісаў пратэсты на сценах тэатра, паліцыя таксама затрымала яўрэя Давыда Гадоўскага з таблічкамі "Вуліца С. Прытыцкага", якія мелі прымацаваць на адной з вуліц Вільні. Пракуратура і суды былі завалены ананімнымі пратэстамі, а назаўтра перад будынкам суда былі распаўсюджаны ўлёткі з выявай Прытыцкага і заклікам сабрацца для пратэсту перад судом.

**Не расплумачаныя рэчы**

Ініцыятары пратэстаў засталіся невядомымі, але зразумела, што гэта справа КПЗБ. Таксама неразгаданая загадка паказанняў Стрэльчука. Нехта павінен быў перапісаць іх, зрабіць гэта мог той, хто мае доступ да дакументаў суда. Невядомыя таксама і выканаўцы іншых забойстваў, а забіта шмат асоб, гэта і Шлёма Марголіс, і Аляксандр Субач, Мікалай Адамовіч, Юльян Каловін і недзе на Антокалі быў забіты Ян Высоцкі. І ўсе яны забіты патаемны.

**Паказанні сведкаў**

Перад судом стаіць добра вядомы па папярэдніх працэсах сведка Блясмановіч. Ён расказвае пра пагоню за Прытыцкім. Сведка не заўважыў, ці страляў падсудны, але здаецца, адзін выпадковы стрэл ён зрабіў каля дзвярэй. Потым сведка доўга абгрунтоўвае свае меркаванне, што падсудны быў цесна звязаны з камуністычнай партыяй і выконваў яе дырэктывы. Пра добрую падрыхтоўку кажа фальшывы пашпарт і кантакт з вядомым камуністам Юзафам Цыпкам. Сенсацыйным момантам у паказаннях Блясмановіча стала яго заява аб тым, што МОПР для выратавання Прытыцкага сабраў у Вільні каля 1300 зл. з якіх 1000 пайшла на ганарар для адваката Дурача (адвакат крывіцца, але маўчыць).

Пасля гэтага суд пачаў разглядаць улёткі, якія распаўсюджваліся перад пачаткам суда, некаторыя з іх падпісаны ад імя КПЗБ. На адной з улётак маецца фатаграфія абвінавачанага. Прытыцкі на ёй усміхаецца, ён названы героем, які зойме сваё пачэснае месца ў гісторыі КПЗБ.

Гэты працэс у сваім родзе ўнікальны. Праз хвіліну паказанні дае возны суда Голуб. Пасля яго як сведка выступае віца-старшыня суда Бразоўскі і расказвае пра тое, што бачыў падчас свайго старшынства на працэсе ў той трагічны дзень. Пасля яго паказанні дае судовы следчы Шэлкінг. Расказвае, як параненага Прытыцкага паклалі ў карэту хуткай дапамогі, паранены трымаўся за бок і на пытанне сведкі адказаў па-беларуску: "Не твоё дело" (па беларуску: "Не твая справа" - *Л.Л.*), а потым дадаў: *"Страляў у правакатара і прыгнятальніка рабочага класа"*. На пытанне: *"Як цябе завуць?"*, адказаў: *"Не ведаю"*. У карэце хуткай дапамогі падсудны трошкі падняўся на руках і пракрычаў: *"Няхай жыве камуністычная і пралетарская рэвалюцыя!"* (Гэтая фразы пададзены па-польску - *Л.Л.*)

У шпіталі св. Якуба Прытыцкі адмовіўся ад рэлігійнага суцяшэння і пагадзіўся на аперацыю. Падчас аперацыі было выяўлена, што у страўніку няма ежы, што кажа пра падрыхтоўку да здзяйснення злачынства.

Далей, па-чарзе, выступаюць супрацоўнікі паліцыі Дайноўскі і Пачкоўскі. Першы сцвярджае, што падсудны страляў толькі на сходах, перад тым, як разбіў вокны, другі, што страляў не цэлячыся і ў зале. Пачкоўскі таксама распавёў пра прадчуванне студэнта, які сказаў яму ў той дзень: *"Сёння ў газетах напішуць: "Падзеі ў судовай зале""*.

Весялосць уносяць паказанні адваката Чэрніхава, які адхрышчваўся ад пытання суддзі, які звярнуў увагу на яго неўласцівы водгук пра Стрэльчука. Чэрніхаў сказаў: *"5 гадоў выступаю ў судзе, і ніколі мне не звярталі на гэта ўвагі"*. Потым, пачынаючы з часоў Напалеона, ён




тлумачыў, што меў на ўвазе пад словам "правакатар". "Але, Стрэльчук не жыў пры Напалеоне", - адказвае яму пракурор.

Перад судом стаіць сведка Белакоз, які паходзіць з той самай вёскі, што і падсудны, і таму ведае яго з дзяцінства. Зараз сведка праходзіць вайсковую службу. Выглядае насцярожана і адмаўляецца ад сваіх паказанняў на следстве.

Таму яго паказанні зачытваюцца. Аказваецца, падсудны ўзначальваў камуністычную ячэйку і пераконваў сваіх знаёмых уступіць у партыю. Калі зачытваюцца імёны тых, каго прыцягнуў Прытыцкі, той робіць выгляд, быццам нешта ўспамінае. Каб даведацца, чаму сведка адмовіўся ад паказанняў, пракурор бярэ яго ў абцугі вострых пытанняў, і ў выніку Белакоз пацвярджае свае ранейшыя заявы.

Яшчэ раз дапытваюць Блясмановіча. Ён падае імёны загінуўшых ад партыйнага выраку: Шлёма Марголіс, Ян Высоцкі …

**"З аднаго боку злачынства і тэрор, з другога - фальшывая талеранцыя"**

Пра ўсё гэта кажа пракурор Вольскі.

Ён назваў працэс нечым незвычайным і пасля аналізу усіх доказаў, перайшоў да сінтазу. Расказваў пра перыяд дзейнасці Прытыцкага яшчэ ў Гаркавічах, пра канспіратыўныя сходы ў садах, лясах і г. д. і затрымаўся на "прысудах", якія выконваюць функцыянеры КПЗБ.

"Смяротны прысуд партыі" - гэта звычайнае злачынства, здзейсненае злачыннай клікай, арганізаванымі змоўшчыкамі, якія такім чынам імкнуцца рэалізаваць свае мэты. Ахвярамі гэтага тэрору станавіліся ўсе, хто стаяў на іх шляху. Злачынцы XX ст. злучыліся ў арганізацыю. Наша грамадства хворае на дрэнна зразумелую талеранцыю і псеўдалібералізм, калі з аднаго боку ёсць канцэнтраванае зло, а іншы бок яго ігнаруе. Камунізм - гэта скампраметаваны гмах матэрыялізму, у якім пануюць гвалт, забойствы і подласць, дзе людзей забіваюць без прысуду але над гэтым гмахам лунае сцяг свабоды. […]

Адзінай карай для падсуднага можа быць толькі смяротная кара.

Адвакат Дурач намагаецца даказаць, што Стрэльчук быў правакатарам, а Прытыцкі не належаў да КПЗБ і загад забіць яго не выконваў. Просіць пра больш лагоднае пакаранне.

**Кара смерцю праз павешанне**

[…]

Суд прызнаваў Прытыцкага вінаватым і прыгаварыў да кары смерцю праз павешанне.

[…]

*Z. A. [Мацкевіч Юзаф] Sprawca srzalow na Sali sadowej skazany na smierc. Proces komunisty Prytyckiego w Sadzie Okragowym // Slowo. 1936. № 169.*

***Пераклад і каментаванне Леаніда Лаўрэша.***

# Будучыя музыкі цікавяцца паэзіяй

Дом Валянціна Таўлая Лідскага гісторыка-мастацкага музея наведалі студэнты Лідскага музычнага каледжа. Для іх была арганізавана экскурсія па мемарыяльным пакоі Валянціна Таўлая, у якім 8 лютага ўрачыста была адкрыта выстаўка "У дом твой сцежка прывяла сама...", прысвечаная да 110-годдзя з дня нараджэння беларускага паэта. Навучэнцы пазнаёміліся з матэрыяламі, дасланымі з 15 музеяў, архіваў і бібліятэк Беларусі, у якіх захоўваецца эпісталярная спадчына, фотаздымкі і дакументы Валянціна Таўлая і пра яго ў тым ліку. Асабліва зацікавілі будучых выкладчыкаў музыкі ноты кампазітара Леаніда Шурмана на словы Валянціна Таўлая.





Напрыканцы наведвальнікі змаглі пагутарыць з навуковым супрацоўнікам музея Алесем Хітруном, задалі яму пытанні, даведаліся пра яго навуковыя даследаванні, музейную дзейнасць, пэўныя дасягненні ў працы.

***Наш кар.***





# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## *Без халадзільніка: Гадыцкі-Цвірка, Іваноў, Кіпель, Сачанка, Шэрман; два погляды на "кампійцаў"*

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-52 (53-104) (2023); 1-7 (105-111) за 2024 г.)*

У мінулым выпуску мы крыху напісалі пра індзейскія ідэйныя карані "камунізму". Але як захоўвалі вернасць гэтым караням "артадаксальныя" камуністы пасля жніўня 1991 г.? Адказам на гэтае пытанне можа служыць набор з публікацыі ў жніўні 1996 г. у газеце "Товарищ" і рэплікі пасля прачытання яе ў Гомелі, якая была дасланая у рэдакцыю - і якая, больш чым верагодна, не была надрукаваная.




***Envelope from the magazine Biarozka (часопіс "Бярозка") postmark 1991-02-07 (Publishing House of the Central Committee of the Communist Party of Byelorussia (CC CCB)) (3 лістом ад загадчыка аддзела Алеся Бадака (Ales Badak) 1991-02-06)***




***Envelope from "Izdatelstvo TsK KPB" ("Publishing House of the CC CCB") postmark 1991-08-06. 3 лістом ад А. Бадака б.д. Цяжкі 1991 год. Апошнія месяцы Выдавецтва ЦК КПБ***




***Конверт: "Издательство ЦК КПБ" (газета "Зорька") postmark 1991-09-24 (25-га атрыманы: экз. нумара газеты з нашай публікацыяй "Кто отзовется" (Ау, кинематографисты) (Клуб юного кинозрителя) 1991-09-20)***

Сталай практыкай нашага калегі Аляксандра Снітко з'яўляецца дадаваць вызначэнні, "тытулы", хто ён, пасля свайго імя і прозвішча або псеўданімаў. Апошнія - гэта цэлая тэма. Ужываў іх часта; адзін з іх - Малько - уяўляе самой своеасаблівы міжкультурны "каламбур" з псіхалагічным "падтэкстам": сустрэліся яго ўласнае прозвішча на *"-ко"* і індзейскае слова *"мальку" (mallku)*, узятае з назвы фільма Х. Санхінеса (назву пры пракаце давалі "Кроў кондара", але слова *мальку*, якое абазначае правіцеля правінцыі або паселішча, грамады (айлью), - усё ж запазычанне ў мове кечуа з аймара ў іншым першапачатковым значэнні: у аймара Мальку, або Мальку Кунтуры, - бажаство, "уладыка велізарнай вышыні", і геаграфічнай, і іерархічнай). У іншым выпадку "псеўданімаворчасці" артыкул Снітко, які з'явіўся ў дзвюх газетах, падпісаны Кандратам Кондаравічам (па-беларуску трэба было б "Кандаровіч"). Часам "тытулы" проста працягваюць артыкул, бо звязаныя з яго зместам. У выпадку з артыкулам або лістом у "Товарищ" у яго подпісах былі 5 асобных вызначэнняў. Мы пракансультаваліся, ці ўхваляе ёй цяпер свой допіс для "апублічвання". Пасля ваганняў ён згадзіўся на абнародаванне, але з умовай зняць вызначэнні, якіх занадта шмат і якія гучаць занадта пафасна.

Было пяць тытулаў, уключаючы тое, што ён член БІТ і *"актывіст прагрэсіўнай сусветнай арганізацыі*








***Envelope from Freeport-McMoRan Copper & Gold to Aleksandr Snitko postmark 1996-07-01***




***Envelope from Mobil to A. Snitko postmark 1996-12-23***

*абароны карэнных народаў "Міжнароднае выжыванне""*. Аляксандр не дадаў тое, што ён быў і членам КПСС / КПБ; хаця КПБ не была ліквідаваная (з канца жніўня 1991 г. па люты 1993 г. дзейнасць яе была толькі прыпыненая), з нейкага моманту ў сувязі з драматычнымі арганізацыйнымі паваротамі Аляксандр ужо не быў яе радах.

Дарэчы, у ходзе абмеркавання, пакуль яшчэ не згаджаючыся, Аляксандр напісаў пра свой допіс у "Товарищ", які планаваўся як публікацыя: *"Слишком детская и потому стыдная"*. Гэта не прыніжае аўтара, а сведчыць пра крытычную ацэнку зробленага, пры гэтым паказваючы яго несумненны публіцыстычны талент ужо, так бы мовіць, у дзіцячым узросце.

***Эдуард Ясны***

***МОЗГ У ПЯТКАХ, АБО КАМПА НА БЕЛАРУСІ***

*Хто такія кампа? О, гэта найцікавейшыя нецывілізаваныя стварэнні, знойдзеныя ў цяжкадаступных джунглях Перу!*

*На першы погляд, людзі як людзі, хаця і дзікуны. Адзін кумпал, дзве рукі, дзве нагі і г.д. Ёсць сярод іх жанчыны, ёсць мужчыны, якія адрозніваюцца адпаведнымі "параметрамі". Кампа жэняцца, размнажаюцца, гадуюць дзяцей, жывуць не тужаць.*

*Вучоныя, якія ўпершыню сутыкнуліся з імі, былі ўражаныя [поражены] непрадказальнасцю гэтых істот, алагічнасцю іх учынкаў, дзіўным бачаннем свету. Доўга пакутавалі даследчыкі над тайнай незвычайнага племені і, нарэшце, разгадалі яе. Высветлілася, што кампійцы бачаць рэчаіснасць наадварот, дагары нагамі.*

*На думку даследчыкаў, у кагосьці з далёкіх продкаў цяперашніх тубыльцаў адбылося парушэнне генетычнага коду, а далей "працэс пайшоў". Хвароба перадавалася з пакалення ў пакаленне, колькасць непаўнацэнных кампійцаў расла. Урэшце, усе яны сталі ўспрымаць свет у перавернутым выглядзе. Драма, трагедыя? Як сказаць. Самі калекі ўпэўненыя, што з'яўляюцца элітарным племенем, на нармальных людзей глядзяць пагардліва [свысока], лічаць іх непаўнацэннымі. Спробы пераканаць іх у адваротным пацярпелі поўнае фіяска. Ды і ці можна разлічваць на іншы зыход, калі ў нашых новых знаёмых мозг знаходзіцца не ў галаве, а фактычна ў пятках?*

*Беларусь аддзелена ад джунгляў Перу тысячамі сухапутных кіламетраў і тысячамі акіянскіх міль. Ніхто з нашых суайчыннікаў і "раскаваных" суайчынніц, як паведамляюць аўтарытэтныя крыніцы, у інтымныя адносіны з кампійцамі не ўступаў. Такім чынам, не могуць у нас сёння з'явіцца індывідуумы, якія перакручана [извращенно], дагары нагамі, успрымаюць рэальнасць.*

*З пункту гледжання біялагічнага - так. Але цяпер палітыка, дакладней - палітыканства задушыла і падмяла пад сябе многія "пункты" ["точки", "points"], якія існуюць у грамадстве. У выніку здарылася велізарная бяда: у некаторых беларускіх дзеячаў, відаць, пацярпеў генетычны код. Інакш чаму яны, падобна да паўднёваамерыканскіх хворых абарыгенаў, робяць наадварот, чым гэта робяць іх нармальныя калегі ў дальнім і бліжнім замежжы.*

*Возьмем пытанне пра зямлю. Пад якімі б флагамі не выступалі дзяржаўныя і палітычныя дзеячы, колькі б слоўна [словесно] не дубасілі адзін аднаго, але як толькі гаворка заходзіць аб галоўнай карміліцы, аб маці ўсіх багаццяў, яны знаходзяць агульную мову: сваю зямлю беражом, нібы зрэнку вока, яе не транжырым, не дорым, не прадаём нават самым лепшым з лепшых іншаземцаў. Вось прыкупіць зямліцы ў тых, хто думае пяткамі, гэта - калі ласка, гэта ідзе за мілую душу... Няма ніводнай краіны на планеце, якія ў нас ліслівa называюць цывілізаванымі і на якія моляцца, дзе прадавалі б зямлю іншаземцам для вядзення сельгасвытворчасці. Ніводнай!*

*Дзе-нідзе прадаюць, праўда, чужынцам малюсенькія "соткі" пад забудовы іх магазінамі, офісамі і г.д. Згодна з падлікамі спецыялістаў, гэтыя "соткі" складаюць каля аднаго працэнта раллі, якая ёсць у свеце.*

*Чаму - гэта зразумела дзіцяці. Збываць зарубежным дзядзькам зямлю - значыць секчы сук, на якім сядзіць нацыя - яе свабода, яе незалежнасць, яе дзяржаўнасць. З улікам цяперашняга эканамічнага, фінан-*

*савага становішча, якое склалася ў свеце, гандаль беларускай зямлёй прывядзе да таго, што яе "гаспадарамі" [ў публікацыі слова па-беларуску] стануць Фрыцы і Джоны, а мы, "дурныя" Іваны, будзем хадзіць у іх у парабках.*

*Да нашага сораму і гора, у беларускім парламенце пераважная большасць дэпутатаў не разумее (або ро-біць выгляд, што не разумее) гэтай элементарнай [азбучной] ісціны. Заканадаўчыя мужы дзяржавы, размешчанай у цэнтры Еўропы, яўна сэвалюцыянавалі ў бок перуанскіх туземцаў. Таму ў іх, як і ў ненармальных аскепкаў першабытна-грамадскага ладу, усё шыварат-навыварат.*

*Увесь разумны свет інтэгруецца - нашы родненькія кампа парвалі і працягваюць рваць тысячы нітак, якія звязваюць эканоміку Беларусі са складаным народнагаспадарчым комплексам былога СССР.*

*Увесь шчаслівы [благополучный] свет дацiруе [дотирует] айчынную сельскую гаспадарку - нашы міленькія кампа з пенай каля рота бічуюць калгасы і саўгасы, якія "праядаюць" народныя сродкі.*

*Увесь канкурэнтаздольны свет ідзе да стварэння буйных аграрна- прамысловых утварэнняў - нашы "даражэнькія" кампа з вучоным выглядам знаўцаў тлумачаць [толкуют] пра дробных фермераў і пра бабуліных казлоў.*

*Увесь свет, які рацыянальна мысліць, імкнецца экспартаваць тавары - нашы талерантненькія кампа імпартуюць іх і радуюцца, што магазіны перапоўнены гнілымі снікерсамі ды нітратнымі курынымі ножкамі.*

*Бяспрыкладныя іх подзвігі, непрадказальныя рашэнні, непамерныя [безразмерные] амбіцыі, вышэй нябёс - ганарлівасць [самомнение]. Свой народ яны ахрысцілі хворым - нябачны феномен у гісторыі цывілізацыі.*

*Аднак хворыя якраз яны, нашы тлусценькія кампа-дэмакраты. Разам [Вкупе] і палюбоўна [влюбе] з імі аказаліся аграрыі, якіх нядаўна абразліва называлі "чырвонымі памешчыкамі". Цяпер яны ўжо пабялелі. Ці не адыграла ў гэтым стымулюючую ролю паездка іх лідара ў ЗША? Асобныя візіцёры, пабываўшы ў гэтай краіне, імгненна "пранікаюць розумам" ["прозревают"]. Успомнім былога кандыдата ў члены палітбюро ЦК КПСС Барыса Ельцына. Абляцеў "верны ленінец" на верталёце статую Свабоды - і тут жа з камуніста ператварыўся ў капіталіста (палітычна). Ці лётаў пан Шарэцкі каля цудоўнай амерыканскай жанчыны - нам аб гэтым невядома. Але тое, што былы загадчык кафедры Мінскай вышэйшай партыйнай школы вярнуўся з Амерыкі іншым чалавекам, - факт. У перадвыбарнай жа гонцы, ідучы ў адной запрэжцы з камуністамі, ён кляўся і бажыўся змагацца за суверэнітэт, за лозунг "зямлю - беларускім сялянам".*

*Мы тады не ўдакладнілі: якую зямлю? Чарнобыльскую, якую Джон або Фрыц дарам не возьмуць, або здаровую, пладаносную. Магчыма, пан Шарэцкі меў на ўвазе радыеактыўныя плошчы. Іх у нас шмат - амаль чвэрць рэспубліканскай тэрыторыі. Гаспадарнічай на іх, беларускі калгаснік, капай сабе і сваім дзецям заўчасную магілу!*

*Так, пытанне аб продажы зямлі іншаземцам усіх расставіла згодна з іх сапраўдным палітычным ранжырам. У ліку прадаўцоў аказаліся прадстаўнікі ўчора яшчэ, здавалася б, розных палітычных партый. Сёння арганізаваўся новы альянс - альянс спекулянтаў роднай зямлёй, у якой апынуліся нават два камуністы.*

*Аднак руплівыя [ретивые] прадаўцы забыліся. Ёсць жа Канстытуцыя рэспублікі, няхай сабе і буржуазная. Тым не менш, яна нікому, акрамя народа, не дае права асабіста [самолично] вырашаць лёс галоўнага нацыянальнага набытку [достояния]. Прэтэнзіі людзей, якія ўявілі [возомнили) сябе вяршыцелямі [вершителями] народнага жыцця, не больш чым прэтэнзіі, абумоўленыя недасканалым [ущербным], кампійскім успрыманнем рэчаіснасці. Мозг у пятках - гэта анамалія, якая мае патрэбу ў тэрміновым лячэнні.*

*У якасці лекара тут павінен выступіць народ [,] калі, вядома, ён не хоча ператварыцца ў халопа [холопа] на роднай зямлі.*

АРГАНІЗАЦЫЙНАЯ ГРУПА БЕЛАРУСКАГА ІНДЗЕЯНІСЦКАГА ТАВАРЫСТВА
ОРГАНИЗАЦИОННАЯ ГРУППА БЕЛОРУССКОГО ИНДЕАНИСТСКОГО ОБЩЕСТВА
246049,БССР,Гомель,
Руководитель: Алесь Симаков
Представитель в Гомельской области: Александр Снитко
246004,БССР,Гомель,

ОГ БИО осуществляет мероприятия по объединению всех связанных с индейцами и индеанистикой лиц, живущих в СССР и желающих содействовать развитию индеанистики в БССР, изучению связей между Белоруссией и индейцами, культурному обмену населения Белоруссии с индейскими народами и борьбе индейцев.
ОГ БИО предоставляет всем заинтересованным лицам и организациям необходимую информацию по ОГ БИО и проекту устава БИО, белорусско-индейским связям, предметам интереса в белорусско-индейских аспектах, проблемам индеанистики и предлагает участвовать в ее деятельности или содействовать ей.

Дорогой товарищ I

Обращаемся к Вам как представителю группы индеанистов, которые привлекли наше внимание в связи с усилиями по объединению в общество всех сочувствующих развивающейся белорусской индеанистике. В Белоруссии мы имеем лишь несколько индеанистов в полном смысле этого слова и продолжаем искать своих единомышленников во всех наших областях. Согласно проекту устава, членом Белорусского индеанистского общества может стать любой гражданин СССР независимо от места проживания. Мы исходим из того, что многие индеанисты за пределами БССР - белорусы, потомки белорусов или уроженцы Белоруссии. Следовательно, они не могут оставаться равнодушными к тому, что происходит на Родине, тем более в сфере их интересов. Мы не сомневаемся, что большинство индеанистов-небелорусов также поддержит наше начинание, проявит интернациональную солидарность.

Мы видим Белорусское индеанистское общество как организацию тех людей, кто так или иначе сталкивается с индейцами и индеанистикой и нуждается в общении, понимании, содействии. БИО призвано помочь всем индеанистам развиваться и направлять свои знания и способности на общественную пользу, имея ввиду два приоритета - интернационализм и патриотизм. Быть настоящими борцами за дружбу народов, за совместное противостояние империализму и реакции, за освобождение американских индейцев, содействовать изучению и лучшему пониманию расовых и национальных проблем, созданию такой ситуации в нашей стране, при которой у других народов, в частности индейских, вообще не возникнет сомнения в необходимости именно социалистического пути развития.

Мы надеемся, что наше объединение привлечет внимание общественности и завоюет авторитет в ее глазах. Мы тщательно продумаем организационную структуру и механизм функционирования общества и его руководящих органов, привлечем в качестве консультантов видных специалистов, общественных деятелей и деятелей культуры. Мы приложим усилия к тому, чтобы наша деятельность активно воздействовала на процессы межнациональных отношений и будем стремиться превратить свою организацию в один из координирующих центров подобного рода.

Уже сейчас активисты инициативы располагаютзначительной информацией по различным вопросам и готовы давать справки и консультации. Мы имеем возможность выдавать для чтения книги и другие издания из объединенной библиотеки. Каждый, кто проявит интерес и выскажет желание сотрудничать, сможет получать еженедельный бюллетень ОГ БИО и регулярные подборки материалов по интересующим их темам.

***Обращение (А. Симаков, А. Снитко) - организационные усилия индеанистов, с. 1 з 3-х***





І вось каментарый нашага блізкага калегі:

***Аляксандр Снітко***

*ЛІСТ У ГАЗЕТУ "ТОВАРИЩ"*

*У дзяцінстве, пры савецкай уладзе, я даведаўся, як жорстка эксплуатуюцца першабытныя плямёны і народы ў свеце капіталу. Каланіяльныя войны, гандаль афрыканцамі-рабамі, знішчэнне плямёнаў індзейцаў, рабаванне прыродных багаццяў народаў трэцяга свету - усё гэта не магло не выклікаць у маёй юнай чыстай душы праведнага гневу і шчырай спагады да прыгнечаных. Тады ж я даведаўся, што камуністы як перадавы атрад прагрэсіўнага чалавецтва паслядоўна і настойліва выступаюць у абарону прыгнечаных карэнных народаў.*

*Пасталеўшы, я пачаў глыбей вывучаць культуру, гісторыю, этнаграфію гэтых народаў. Асабліва мне палюбіліся індзейцы абедзвюх Амерык. Ды і не можа не захапляць кожнага прыстойнага чалавека іх глыбокая маральнасць, не раз'едзеная заганамі капіталістычнай цывілізацыі, дзе пануе залатое цяля. Іх высокая экалагічная свядомасць (любоў да прыроды і беражлівыя адносіны да яе) вартая самага глыбокага захаплення.*

В детстве, при советской власти, я узнал, как жестоко эксплуатируются первобытные племена и народы в мире капитала. Колониальные войны, торговля африканцами-рабами, истребление племен индейцев, грабеж природных богатств народов третьего мира - все это не могло не вызвать в моей юной чистой душе праведного гнева и искреннего сочувствия к угнетенным. Тогда же я узнал, что коммунисты как передовой отряд прогрессивного человечества последовательно и настойчиво выступают в защиту угнетенных коренных народов.

Повзрослев, я стал глубже изучать культуру, историю, этнографию этих народов. Особенно мне полюбились индейцы обеих Америк. Да и не может не восхищать каждого порядочного человека их глубокая нравственность, не разъеденная пороками капиталистической цивилизации, где властвует золотой телец. Их высокое экологическое сознание/любовь к природе и бережное отношение к ней/ достойны самого глубокого восхищения. А их гордость, свободолюбие, мужественное сопротивление колониальным захватчикам всегда вызывали симпатию и восхищение у лучшей, прогрессивной части человечества.

Тогда же, в далекой моей юности, мне стало ясно, что только буржуазно-капиталистические расисты считают их дикарями, неполноценными народами. А коммунисты всегда во всем мире были друзьями и союзниками угнетенных индейцев...

Но вот в одном из последних номеров газеты белорусских коммунистов "Товарищ" я прочитал такое, что у меня глаза на лоб полезли. Некто Эдуард Ясный опубликовал грязную пасквильную статейку, в лучших традициях буржуазно-расистской прессы, в которой поливается грязью маленький, но гордый индейский народ - кампа. Такой материал вполне логично бы смотрелся в каком-нибудь расистско-фашистском коричневом листке. Но как он попал в "Товарищ"? Или кто-то в редакции разделяет реакционно-расистские взгляды господина Ясного? Эх, Товарищ, товарищ...

Товарищи из редакции "Товарища"! Обращаюсь к вам с призывом провести партийное собрание редакции и дать принципиальную партийную оценку взглядам господина Ясного, с которой прошу ознакомить прогрессивную общественность Белоруссии.

С уважением

т. Снитко Александр.



***Aleksandr Snitko. Letter to the newspaper Tovarishch (Comrade). 1996. Снитко А. Письмо в редакцию газеты "Товарищ" (Минск)***

*А іх гонар, свабодалюбства, мужнае супраціўленне каланіяльным захопнікам заўсёды выклікалі сімпатыю і захапленне ў лепшай, прагрэсіўнай часткі чалавецтва.*

*Тады ж, у далёкім маім юнацтве, мне стала зразумела, што толькі буржуазна-капіталістычныя расісты лічаць іх дзікунамі, непаўнавартаснымі народамі. А камуністы заўсёды ва ўсім свеце былі сябрамі і саюзнікамі прыгнечаных індзейцаў...*

*Але вось у адным з апошніх нумароў газеты беларускіх камуністаў "Товарищ" я прачытаў такое, што ў мяне вочы на лоб палезлі. Нехта Эдуард Ясны апублікаваў брудны пасквільны артыкульчык, у лепшых традыцыях буржуазна-расісцкай прэсы, у якой паліваецца брудам маленькі, але горды [гордый] індзейскі народ - кампа. Такі матэрыял зусім лагічна б глядзеўся ў якім-небудзь расісцка-фашысцкім карычневым лістку. Але як ён патрапіў у "Товарищ"? Ці нехта ў рэдакцыі падзяляе рэакцыйна-расісцкія погляды спадара Яснага? Эх, Таварыш, таварыш...*

*Таварышы з рэдакцыі "Товарища"! Звяртаюся да вас з заклікам правесці партыйны сход рэдакцыі і даць прынцыповую партыйную ацэнку поглядам пана Яснага, з якой прашу азнаёміць прагрэсіўную грамадскасць Беларусі.*

*З павагай*

*т. Снітко Аляксандр, […].*

Наш пераклад з рускай мовы.

Крыху нагадвае выказванні сябра Аляксандра з Чылі Алега Ясінскага пра форум у Давосе, якія мы цытавалі ў "Нашым слове.pdf" № 5 (109).

Акрамя андскіх слоў, згаданых намі напачатку, Снітко выкарыстаў для сваіх псеўданімаў імёны абаронцаў абарыгенаў Лас-Касаса і Міклухі-Маклая, імёны паўміфічнай Пакахонтас і зусім літаратурнага Чынгачгука, таксама ён "спаслаўся" на аўтарытэт славутага лацінаамерыканіста і разведчыка І. Грыгулевіча ("Григулявичус" указвала на паходжанне "Грыгулявічуса" з літоўскіх караімаў, але па-руску трэба было "*-чюс*").

**Літ.:**

*3150 Ясный Э. Мозг в пятках, или Кампа на Беларуси // Товарищ. 1996. 2 авг. С. 3.*

*3666 Кондаравіч К. Чырвонае і чорнае: што азначае імя Тупак Амару Шакур // Беларуская маладзёжная. 1998. 8-15 мая. С. 7. (4,5 тыс. экз.)*

*3848 Кондаравіч К. Чырвонае і чорнае, ці што азначае імя Тупак Амару Шакур // Барацьба. 1998. № 1/4. С. 8. (1500 экз.)*

*6730 Лас Касас, Б. де. Браконьеры от Христа // Атака (Гомель). 2002. № 4/5. С. 5.*

*5813 Миклуха Маклай. Последняя граница // Amnesty International у Беларусі. 2001. № 1 (лют.). С. 6-7.*

*6374 Миклуха Маклай. Последняя граница // Зялёны край / Zialony kraj. 2001. № 5 (14). С. 25-32.*

*6760 Миклуха Маклай. Некролог с ложкой дегтя*

